

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (214)
сакавік 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:



Артыкул „У Рызе – песенны букет", размешчаны ў №1 (214) „Беларусаў ў свеце", мае недакладную пазнаку аўтарства тэксту. Трэба чытаць: „Ганна Іване, вядучая конкурсу, намесніца дырэктаркі Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы; „Голас Радзімы".




Дактары Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру "Маці і дзіця".

# ДЗЕВЯЦЬ ПАТРАБАВАННЯЎ

Беларускія лекары, якія працуюць у ЗША і Заходняй Еўропе, звярнуліся з адкрытым лістом да ўладаў Беларусі ў сувязі з эпідэміяй вірусу COVID-19.

У лісце лекары патрабуюць ад органаў улады ўсіх узроўняў:

1. Закрыць усе навучальныя і дашкольныя ўстановы для наведвання на чатыры тыдні, з наступным працягам.

2. Забараніць любыя масавыя мерапрыемствы і сходы, якія не дазваляюць удзельнікам знаходзіцца на адлегласці двух і больш метраў адзін ад аднаго.

3. Закрыць спартовыя і забаўляльныя ўстановы і прадпрыемствы грамадскага харчавання, за выключэннем дастаўкі на дом.

4. Рэкамендаваць аддаленыя спосабы працы, гнуткія графікі, ініцыяваць закрыццё на каранцін прадпрыемстваў і арганізацый, якія непасрэдна не ўдзельнічаюць у жыццезабеспячэнні насельніцтва.

5. Адразу ж забяспечыць апавяшчэнне ўсіх груп насельніцтва аб спосабах абароны ад інфікавання і абмежаванні пашырэння інфекцыі, у тым ліку аб правілах паводзін пры ўсеагульным каранціне.

6. Забяспечыць своечасовае інфармаванне грамадскасці аб бягучай статыстыцы захворвання і захадах барацьбы з эпідэміяй.

7. Забяспечыць работнікаў медыцынскіх устаноў і іншых службаў жыццезабеспячэння ахоўнымі сродкамі, харчаваннем і, пры неабходнасці, дапамогай у доглядзе дзяцей.

8. Адмяніць асабістую адказнасць медыцынскіх работнікаў за абнародаванне інфармацыі аб бягучым стане ў медыцынскіх установах.

9. Актыўна спрыяць узаемадзеянню дзяржаўных устаноў з грамадскімі і валанцёрскімі арганізацыямі для выканання названых задач, а таксама для бяспечнай дастаўкі прадуктаў харчавання і медыкаментаў людзям з высокай рызыкай сур'ёзных ускладненняў (людзі, старэйшыя за 60 гадоў, з хранічнымі захворваннямі або паніжаным імунітэтам).

Лекары тлумачаць, чаму гэтыя захады неабходныя менавіта цяпер:

• Вірус хутка распаўсюджваецца ў паўсядзённым жыцці і перадаецца як хворымі людзьмі, так і здаровымі носьбітамі.

• Досвед іншых краін паказаў, што прамаруджванне ва ўвядзенні названых захадаў вядзе да масавай гібелі людзей, бо сістэма медыцынскай дапамогі надзвычай перагружаная.

• У гэтай сітуацыі непазбежны высокі ўзровень захворвальнасці і смяротнасці сярод лекараў і медыцынскага персаналу. Толькі запаволенне распаўсюджвання вірусу праз своечасовае сацыяльнае дыстанцыяванне (усеагульны каранцін) і ізаляцыю хворых можа дазволіць большай колькасці пацыентаў атрымаць дапамогу і выжыць.

Пад адкрытым лістом падпісаліся лекары: з ЗША – Анастасія Пігаль, Сяргей Дзедзік, Т. К., Анастасія Манькоўская, Вольга Годзіна, Вікторыя Казлоўская; Валянціна Балоціна і Крыст Хуб са Швецыі, Дзмітрый Кузьмін і Раман Фарнін з Германіі і Артур Мацуткевіч з Польшчы.

"Хвароба не выбірае людзей паводле сацыяльнага статусу ці пасады. Справіцца з ёю можна толькі праз хуткую кансалідацыю намаганняў усяго грамадства. Час лічыцца на гадзіны", – гаворыцца ў адкрытым лісце.

Дзьмітры Гурневіч, svaboda.org

навіны

# ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА Ў ЗША (CENSUS 2020): “ЗАПІШЫСЯ БЕЛАРУСАМ!”

9. What is Person 1's race?
Mark ☒ one or more boxes AND print origins.
☐ White – Print, for example, German, Irish, English, Lebanese, Egyptian, etc.
Belarusian
☐ Black or African Am. – Print, for example, African, Jamaican, Haitian, Nigerian, Ethiopian, Somali, etc.
☐ American Indian or Alaska Native – Print name of principal tribe(s), for example, Navajo Nation, Blackfeet Tribe, Mayan, Aztec, Native Village of Barrow Inupiat Traditional Government, Nome Eskimo Community, etc.

У ЗША пачаўся Перапіс насельніцтва (Census 2020). Згодна з Канстытуцыяй, перапіс праводзіцца кожныя 10 гадоў, пачынаючы з 1790 года.

Вынікі перапісу выкарыстоўваюцца дзеля вызначэння колькасці прадстаўнікоў ад кожнага штата ў Кангрэсе ЗША, меж выбарчых акруг і таго, як будуць кожны год размяркоўвацца звыш 675 млрд долараў федэральных сродкаў на патрэбы мясцовых супольнасцей.

Перапісацца можна анлайн на адмысловым сайце: my2020census.gov.

Кампанія вядзецца пры падтрымцы Беларуска-Амерыканскга Задзіночання (БАЗА), каманды групы “Беларусы ЗША. Разам Лягчэй” ды Bortnik Fund for Belarus.

**novychas.by**

# СТАРШЫНЯ АЎТАНОМІІ “БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ” АЛА ТУЖЫЛКІНА ЎЗНАГАРОДЖАНА МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Намесніца старшыні рады Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі, старшыня Рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі “Беларусы Масквы” Ала Тужылкіна ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны.



Адпаведны Загад падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Гэтай дзяржаўнай узнагародай Ала Тужылкіна ўганаравана за значны асабісты ўнёсак у развіццё і ўмацаванне беларуска-расійскіх культурніцкіх сувязяў, папулярызацыю беларускай культурнай спадчыны ў Расіі.

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” шчыра віншуе спадарыню Алу Тужылкіну з заслужанай узнагародай!

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

# БЕЛАРУСКІ ГОД У ІЗРАІЛІ РАСПАЧАЎСЯ!



Традыцыйна беларускі год распачаўся ў Ерусаліме ля Сцяны Плачу з Малітвы за Беларусь. Як звычайна акцыя праходзіць ва ўгодкі прыняцця другой Ўстаўной граматы.

У гэтым годзе яна супала з 103 угодкамі Дня Беларускага Значка. Акцыю праводзіў каардынатар ізраільскай суполкі Руху салідарнасці “Разам” Барыс Давід Балтэ. Ён заявіў: “Сёння, калі над Беларуссю вісіць пагроза ліквідацыі Незалежнасці, калі зніштажаецца беларуская мова, калі ў Ізраілі маскоўцы вядуць антысеміцкую кампанію, калі маскоўцы з ісламістамі і левымі рыхтуюцца захапіць уладу, калі паўсюль адчай і трывога, правіца нашых народаў і дзяржаў павінна даць адпор і зрабіць альтэрнатыву маскоўшчыне і папулізму”.

У гонар 102-й гадавіны ўтварэння БНР былі зачытаны 103 псалмы, і ў гонар 103-й гадавіны пачатку беларускай нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыі былі зачытаны 104 псалмы. Выкананы гімн Ізраіля “Аціква” (Надзея) ды гімн Беларусі “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

**Паводле Барыса Давіда Балтэ, “Беларускае Радыё Рацыя”**




# УСТАЛЯВАННЕ МЕМАРЫЯЛЬНАЙ ДОШКІ ДА 100-ГОДДЗЯ БНР ПА-РАНЕЙШАМУ “НЕМЭТАЗГОДНА”

Усталяванне мемарыяльнай дошкі да 100-годдзя БНР на будынку Валадарскага, 9 у Мінску, дзе 102 гады таму незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі была абвешчана, па-ранейшаму “немэтазгодна”. Пра гэта паведаміў Грамадскі нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 100-гадовага юбілею ўтварэння БНР – такі адказ на свой зварот да ўладаў яны атрымалі і сёлета.

Зварот, у якім грамадскія дзеячы нагадалі ўладам пра абяцанне, падпісалі Радзім Гарэцкі (акадэмік НАН Беларусі, сябра Рады “Бацькаўшчыны”), Мікола Купава (сябра Беларускага саюза мастакоў, сябра Рады “Бацькаўшчыны”), Аляксандр Жучкоў (грамадскі дзеяч), Леанід Акаловіч (святар, краязнаўца), Марыя Міцкевіч (старшыня Фонду “Сакавік”, сябра Рады “Бацькаўшчыны”), Лявон Баршчэўскі (філолаг, выкладчык), Рыгор Кастусёў (палітык), Валер Герасімаў (бібліёграф, сябра Рады “Бацькаўшчыны”), Алесь Лагвінец (палітолаг, сябра Рады “Бацькаўшчыны”), Аляксей Янукевіч (палітык).

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

# “БЕЛАРУСЫ ШВЕЦЫІ” ПРАВЯЛІ СХОД АНЛАЙН

20 сакавіка адбыўся агульны сход арганізацыі “Беларусы Швецыі”. Сход праходзіў анлайн. Новы склад рады арганізацыі цяпер такі:

Старшыня рады - Леся Руднік, скарбнік арганізацыі - Андрэй Пыко, чальцы рады - Mila Svärdby, Макс Росенкаў, Ігар Ермашук. Запасны чалец рады - Марцін Недзісан.

**Сяргей Андросенка, facebook.com**

# МУЗЫКІ ВЫКАНАЛІ “СКАРГУ ПАРАНЕНЫХ” У КАРАНЦІНЕ

Галоўны дырыжор аркестру Мюнхенскага ўніверсітэта, беларус Віталь Аляксяёнак завяршыў працу над праектам, зробленым ва ўмовах каранціну ў часе пандэміі каранавіруснай інфекцыі.

Дзевяць музыкаў з розных краін гралі разам “Скаргу параненых” Хайнрыха Бібера. “У кантэксце каранціну для нас гэта скарга тых, каго параніла актуальная сітуацыя, хто не можа выйсці на вуліцу, ці паехаць дадому. Але гэта таксама надзея для музыкаў. Мы ўсё ж можам тварыць музыку, нават калі абставіны нам гэтага не дазваляюць, можам рабіць гэта ва ўмовах hi-tech. Гэта мэсыдж салідарнасці”, – сказаў Віталь Аляксяёнак.

**Паводле Ганны Соўсь, svaboda.org**

навіны

# РАСІЯ ПРАПАНОЎВАЛА БЕЛАРУСІ СТВАРЫЦЬ АДЗІНУЮ ПАДАТКОВУЮ, МЫТНЮ І СУД

У ходзе перамоў аб інтэграцыі Расіі і Беларусі Масква прапаноўвала стварыць 12 наднацыянальных органаў, у тым ліку адзіны эмісійны цэнтр, падліковую палату, суд Саюзнай дзяржавы і адзіны мытны орган, высветліў РБК.



### Што ўтрымлівалася у 31-ай карце

На перамовах аб паглыбленай інтэграцыі з Беларуссю Масква прапаноўвала пачаць працу над стварэннем 12 наднацыянальных органаў. У іх ліку – адзіны эмісійны цэнтр, які прадугледжвае ўвядзенне адзінай валюты, падліковую палату і суд Саюзнай дзяржавы, адзіны мытны орган, адзіны орган па ўліку ўласнасці Саюзнай дзяржавы, адзіныя падатковы і антыманапольны органы, а таксама адзіныя рэгулятары па наступных напрамках: у галіне транспарту, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, сувязі, плюс рэгулятар аб'яднаных рынкаў газу, нафты і электраэнергіі. Пра гэта РБК распавялі тры крыніцы, знаёмыя з ходам перамоў.

Стварэнне гэтых органаў агаворваецца ў апошняй, так званай 31-ай дарожнай карце па інтэграцыі дзвюх краін. Пры гэтым гаворка не ідзе пра тое, каб адразу сфармаваць гэтыя органы – прапаноўваецца распрацаваць дарожныя карты па іх стварэнні. Да якога тэрміну, суразмоўцы РБК сказаць не змаглі. У дакуменце таксама ідзе гаворка аб распрацоўцы дарожных карт, якія тычацца сумеснай стратэгіі Расіі і Беларусі ў сферы абароны, стварэння агульных банкаў даных праваахоўных органаў, уніфікацыі заканадаўства, якое рэгулюе дзейнасць праваахоўных структур і спецслужбаў.

Аднак летам-восенню 2019 года Уладзімір Пуцін і Аляксандр Лукашэнка дамовіліся засяродзіцца на абмеркаванні 30 карт, прыняць іх пакетам, а ўжо пасля, магчыма, вярнуцца да прапрацоўкі 31-ай карты, распавёў РБК іншы суразмоўца, знаёмы з ходам перамоў аб інтэграцыі. Зараз яны пастаўленыя на паўзу па ініцыятыве Мінска, дадае ён.

РБК накіраваў запыты прэс-сакратару прэзідэнта Расіі Дзмітрыю Пяскову і ў прэс-службу ўрада Беларусі.

Аляксандр Лукашэнка неаднаразова адмаўляў, што на перамовах аб паглыбленай інтэграцыі бакі абмяркоўваюць стварэнне наднацыянальных органаў. У расійскім урадзе спрабуюць звязаць рашэнне эканамічных праблем інтэграцыі з палітычнымі і стварэннем наднацыянальных органаў, аднак была дамоўленасць перамовы аб гэтым не весці, заявіў беларускі кіраўнік у інтэрв'ю "Эху Москвы" 24 снежня мінулага года. За дзень да гэтага ўпершыню стала вядома пра існаванне 31-ай дарожнай карты. Пра яе распавёў Дзмітрый Мядзведзеў, які займаў тады пасаду прэм'ер-міністра. Паводле яго слоў, пасля выканання 30 іншых карт "можна будзе паглядзець і на 31-ю дарожную карту, прысвечаную далейшай інтэграцыі, у тым ліку такія інстытуты, як наднацыянальныя органы, адзіная валюта і адзіны эмісійны цэнтр".

### Чаму перамовы буксуюць

У пачатку сакавіка міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей заявіў, што Мінск не бачыць сэнсу працаваць над інтэграцыйным праектам, пакуль не вырашаныя нафтавыя рознагалоссі. Дамовіцца аб цане на нафту і аб'ёмах паставак бакам не ўдаецца таму, што Мінск незадаволены падатковым манеўрам, якія праводзіцца ў Расіі з 2019 года і заключаецца ў паступовай і поўнай замене экспартнай пошліны прапарцыйна павялічаным падаткам на здабычу карысных выкапняў. Раней Расія прадавала Беларусі нафту без гэтай пошліны: у снежні 2018 года яна, напрыклад, складала $ 135,1 за тону. Пры ўмове захавання гэтай ільготы Беларусь падпісала дамову аб стварэнні Мытнага саюза ў 1995 годзе, а пазней пагадзілася на ўступленне ў ЕАЭС у 2015 годзе. Таму цяпер Мінск настойвае на кампенсацыі за падатковы манеўр. У 2019 годзе Беларусь ацаніла свае страты ад яго ў $ 330 млн, у 2020 годзе – у $ 420-430 млн. Да 2024 года, па ўласных ацэнках, Мінск страціць да $ 11 млрд. А пасля таго, калі кошт расійскай нафты для яго зраўняецца з сусветнай цаной, будзе кожны год губляць па $ 3 млрд.

У канцы мінулага года бакам удалося канцэптуальна дамовіцца аб тым, як Масква кампенсуе Мінску страты ад адмены экспартнай пошліны за кошт увядзення зваротнага акцызу для беларускіх НПЗ, гэта значыць фактычна Расія пагадзілася іх субсідаваць. Праблема гэтага рашэння ў тым, што яно запрацуе толькі пасля ўніфікацыі падатковых заканадаўстваў, а іх распрацоўка зойме мінімум два-тры гады. Акрамя таго, адзіны падатковы кодэкс павінен распрацоўвацца ў рамках інтэграцыйнага працэсу, які пакуль выстаўлены на паўзу.

Цяпер ідуць перамовы аб прамежкавым рашэнні, якое дасць магчымасць нівеліраваць наступствы ад манеўру толькі на 2020 год. Гэта магчыма за кошт поўнай адмены прэмій, якія Мінск плаціць расійскім нафтавікам: за тону нафты яна складае каля $ 11,7, гэта значыць $ 1,5 за барэль, распавядалі раней крыніцы РБК. 11 сакавіка ў Маскве сустракаліся прэм'ер-міністры Расіі і Беларусі Міхаіл Мішусцін і Сяргей Румас.

Праз два дні, вечарам 13 сакавіка, Мішусцін сустракаўся з прадстаўнікамі расійскай нафтавай галіны. Пасля гэтага некалькі расійскіх кампаній пагадзіліся знізіць прэмію з тоны на $ 7, распавёў РБК яшчэ адзін суразмоўца. Якія менавіта, ён назваць адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што гэта камерцыйная таямніца. Аб'ём паставак, аб якіх бакі вядуць перамовы, складае 18 млн т да канца 2020 года, адзначыў ён. Аднак Беларусь працягвае настойваць на поўнай адмене прэміі, паведаміў суразмоўца РБК: Мінск разглядае цяперашні варыянт як прамежкавы.

novychas.by

# З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ РАСІІ ПЕРАНЕСЕНЫ ПРАЗ КАРАНАВІРУС

ФНКА Беларусаў Расіі паведамляе аб пераносе VII з'езда Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі Беларусаў Расіі, якое мела адбыцца 2 красавіка, на пазнейшы тэрмін.

Гэта звязана з неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкай і забаронай на правядзенне масавых мерапрыемстваў у Маскве.

Дата правядзення З'езда будзе вызначана Саветам ФНКА Беларусаў Расіі пасля зняцця забароны на правядзенне масавых мерапрыемстваў.

ФНКА Беларусаў Расіі



гутарка

# СЯМНАЦЦАЦЬ ПЫТАННЯЎ ДА БЕЛАРУСКАЙ ДАСЛЕДЧЫЦЫ КАРАНАВІРУСАЎ З КАНАДЫ

Беларуска Алена Лявончанка жыве ў Канадзе, працуе ў фармацэўтычнай кампаніі. У 2008-2011 гадах яна займалася даследаваннямі структурнай біялогіі каранавірусаў ва Універсітэце Таронта (UofT).



Алена Лявончанка (Courtesy Photo)

Пасля заканчэння хімфака БДУ, спецыяльнасць фармацэўтычная хімія, Алена марыла працягнуць навуковую працу ў Беларусі. Але ўладкавацца на адзінае ў 90-ыя гады ў краіне фармакалагічнае прадпрыемства "Белмедпрэпараты" было амаль цудам. Алена паехала вучыцца ў Бельгію, потым скочыла аспірантуру ў нямецкім Гётынгене і абараніла ступень доктара навук у малекулярнай біялогіі. Апрача навуковай працы, Алена ўзначальвае Згуртаванне беларусаў Канады.

У інтэрв'ю "Свабодзе" яна адказвае на самыя папулярныя пытанні адносна новага каранавірусу і тлумачыць, ці можна вылечыць COVID-19 з дапамогай гарэлкі і трактара, як гэта раіў Аляксандр Лукашэнка.

### Як растлумачыць дзіцяці, што такое каранавірус

Мая размова з дачкой пра вірусы адбылася ўжо даўно, як і пра іншыя хваробы. Я растлумачыла, што вірусы – гэта вельмі хітрыя стварэнні, якія самі нічога не робяць, а размнажаюцца падманам, захапіўшы рэсурсы жывёльнай клеткі або бактэрыі. Як суперзлодзеі ў коміксах. Наконт каранавірусу мы таксама паглядзелі сайт САЗ з інфаграфікай, высветлілася што канцэпцыю графікаў і крывых маёй дачцэ ў школе ўжо растлумачылі, і яна зразумела, што колькасць хворых у некаторых краінах расце вельмі хутка, а ў некаторых больш павольна.

### Чым каранавірусы страшнейшыя за грып?

Ёсць шмат розных тыпаў каранавірусаў. Напрыклад, 30-40% таго, што мы называем "ОРЗ", выклікаюць каранавірусы, па-ангельску гэта common cold, звычайная прастуда. Гэта было вядома медыкам і вучоным даволі даўно, але шкоды ад гэтых каранавірусаў чалавеку было няшмат, і таму ніхто асабліва не пераймаўся пошукам лекаў.

Сітуацыя памянялася ў 2002 годзе, калі здарылася эпідэмія SARS, потым у 2012 годзе прыйшоў MERS, а цяпер вось і SARS-CoV-2. Аб'ядноўвае гэтыя тры вірусы тое, што яны "пераскочылі" з жывёл да людзей і хутка навучыліся перадавацца ад чалавека да чалавека. Грып у некаторым сэнсе падобны, бо таксама цыркулюе ў жывёлах і можа перадавацца ад жывёл да чалавека. Але пра грып мы ведаем нашмат больш, маем вакцыну, хоць і не ідэальную, маем лекі.

Пра каранавірусы ведаў пакуль што нашмат менш. Медыцына можа толькі лячыць сімптомы, а спыніць пашырэнне медыкаментамі мы яшчэ не можам. У гэтым і небяспека.

### Што новага атрымала навука, дзякуючы COVID-19?

Шмат чаго. Асабіста мяне ўражвае хуткасць, з якой генеруюцца навуковыя дадзеныя, роля біяінфарматыкі і хваля супрацоўніцтва паміж вучонымі розных краін. Калі я 10 гадоў таму працавала ва ўніверсітэце ў галіне структурнай біялогіі каранавірусаў, той аб'ём інфармацыі, што мы маем сёння пра COVID-19, з'явіўся цягам 3-4 гадоў пасля эпідэміі SARS. Сёння мы тое самае маем за 3 месяцы.

### Хто мае рацыю: панікёры або пафігісты?

Я – спакойны рацыяналіст, грунтуюся на навуковай інфармацыі. Як і з любой інфекцыяй, трэба думаць не толькі пра сябе, але і пра астатніх – пажылых, людзей са слабым імунітэтам, цяжкімі хваробамі. Асабіста мне, маёй сям'і, рызыкі вялікай няма, бо мы адносна маладыя і здаровыя. Але маё дзіцё або я сама можам, не ведаючы таго, заразіць пажылую бабулю ў краме, або чалавека з перасаджанай ныркай, напрыклад, які сядзіць на імунасупрэсантах.

Я бачыла амерыканскую статыстыку наконт гішпанкі. Там, дзе ўсё было закрыта раней, там не было вялікага піку смяротнасці. Там, дзе ўсё адбылося пазней, смяротнасць была вялікая. Яшчэ з Сярэднявечча людзі ведалі, што калі нейкая хвароба – лепш закрыцца дома.

Таму я падтрымліваю дзяржаўныя захады кантролю – каранцін, прафілактыку, інфармаванне людзей. Выходзіць кудысьці варта толькі па вельмі пільнай патрэбе і трэба быць вельмі асцярожным. Чым менш людзей захварэе, тым лепш шпіталі справяцца з цяжкімі хворымі і менш будзе стрэсу ў дактароў і медперсаналу.

### Чаму мы аказаліся такімі непадрыхтаванымі?

Таму што няма вакцын і лекаў. У XXI стагоддзі жалезабетонны падмурак інфекцыйнай медыцыны – гэта вакцыны, антыбіётыкі, прафілактыка. З гэтага супраць каранавірусаў нічога няма, бо да нядаўняга часу яны не лічыліся небяспечнымі для людзей. Рэальных сродкаў, акрамя каранціну, няма. Спадзяюся, пасля гэтай пандэміі сітуацыя зменіцца ў лепшы бок.

### Ці прынясуць плён жорсткія захады ў розных краінах?

Так, прынясуць. Ужо ёсць досвед Кітая па гэтай эпідэміі, пра гэта шмат напісана ў сеціве. Хто не памятае з курсу біялогіі, у XX стагоддзі, дый раней, каранцін і самаізаляцыя былі эфектыўнай мерай уратавацца ад эпідэміі. Узгадайма "Дэкамерон", напрыклад. Каранцін па вятранцы, адры ў школах – усім знаёмы. Вельмі ж простая ідэя – калі няма кантактаў, вірус не можа перадавацца і не памнажаецца ў папуляцыі. Тэарэтычна, калі ўсе хворыя выседзяць у хаце 3-4 тыдні, пакуль арганізм не нейтралізуе вірус і яны не перастануць быць заразнымі, то ў віруса няма шанцаў перадацца іншым.

### Ці можна вылечыцца гарэлкай і працай?

Тэарэтычна, калі гарэлку заліваць у бронхі і лёгкія кожныя пару гадзін (не спрабуйце гэта зрабіць самастойна), то вірус, магчыма, трохі і нейтралізуецца. Але лепш усё ж гарэлкай праціраць рукі, калі няма іншых сродкаў. Наконт вольнага паветра – не самая дрэнная ідэя. Калі вы гуляеце ў парку, а не ў натоўпе, то наўрад ці можна заразіцца.

### Ці лечыць каранавірус народная медыцына?

Гэта не працуе. Хіба як псіхалагічны сродак, калі вы п'яце гарбату і лічыце, што вам так прасцей, бо вы нешта робіце. Але на самой справе гэта не дапамагае.

### Ці можа каранавірус быць хімічнай зброяй злых людзей?

Тэарэтычна гэта магчыма. Цяпер любы студэнт-аспірант, калі ў яго ёсць доступ да сінтэзатараў ДНК, можа зрабіць вірус. Гэта нескладана.

Але геном гэтага вірусу ўжо расшыфравалі. Ёсць ужо навуковыя артыкулы, у якіх абвяргаецца, што ён зроблены чалавекам. Усё гэта можна прасачыць, бо гэта як адбітак пальца. Калі вірус размнажаецца з жывёлы, а потым пераскоквае да

чалавека, гэта бачна па мутацыях, і можна даказаць, што ён спачатку быў у жывёлы.

### Якая найлепшая прафілактыка?

Абмежаваць кантакты па максімуме, мыць рукі, дэзінфікаваць кантактныя паверхні, да якіх вы часта датыкаецеся дома і на працы, аберагаць пажылых людзей усімі магчымымі спосабамі – набудзьце ім прадукты, лекі, кніжкі, каб яны сядзелі дома.

### Чаму на стварэнне вакцыны трэба так шмат часу?

Калі проста – то ўсе вірусы і бактэрыі можна падзяліць на дзве катэгорыі: прасцячкоў і суперзлодзеяў, якія ўмеюць выдатна абдурваць нашу імунную сістэму. Супраць прасцячкоў збольшага вакцыны вынайшлі цягам XIX-XX стагоддзяў. Супраць суперзлодзеяў, такіх як ВІЧ, каранавірусы, грып, нашы тэхналогіі цяпер не дазваляюць зрабіць эфектыўную вакцыну, бо яны, па-першае, вельмі хутка змяняюць сваю маскіроўку, а па-другое, тыя кавалкі віруснай абалонкі, якія не мяняюцца, вірус добра хавае ад імуннай сістэмы, і да іх цяжка падабрацца нашым імунным клеткам.

Гэта суперскладаная задача для навукоўцаў – зрабіць штучны бялок, які б нагадваў нязменны кавалак віруснай абалонкі, але быў бы трывалым і выклікаў бы моцны імунны адказ. Тут мы канкуруем з самой прыродай – мы павінны перагуляць натуральны адбор, які прывёў да надзвычай эфектыўнага механізму маскіроўкі вірусу. Ёсць зрухі, я думаю, праз некалькі гадоў вакцына будзе.

### Вакцына – прадухіляе. А што наконт лекаў для ўжо хворых?

Ад грыпу ўжо ёсць лекі. Не вакцыны, а антывірусныя прэпараты.

Адбываюцца тэсты існуючых супрацьвірусных лекаў, пакуль мне невядома, ці ёсць вынікі, калі будуць – то гэта самы хуткі спосаб. Тэарэтычна нешта новае можна знайсці таксама, але стандартны час на распрацоўку новай малекулы ад пошукаў да ліцэнзаванага прэпарату – гэта 8–10 гадоў, бо патрэбныя грунтоўныя клінічныя выпрабаванні. Так што новага хутка не будзе.

### Колькі людзей заразіцца каранавірусам і якой будзе смяротнасць?

Лічбы смяротнасці вядомыя – ад 0,5 да 4% усіх дыягнаставаных выпадкаў. Разбежка залежыць ад якасці медыцынскай дапамогі. Чым менш перагружаныя шпіталі, тым лепшыя вынікі лячэння і менш смяротных выпадкаў. Таму зноў – памятайце, што супраць інфекцыі мы змагаемся грамадой і думаем не толькі пра сябе, але і пра слабейшых.

### Ці знікне пандэмія – і як хутка?

Гэта будзе вядома праз некалькі месяцаў, калі зразумеюць хуткасць мутацыі вірусу і як менавіта наш імунітэт абараняецца.

Для прыкладу, ізноў жа, грып – ён кожны год розны, і час ад часу бываюць моцныя пандэміі. Для пастаяннай цыркуляцыі каранавірусу сярод людзей ён павінен прыстасавацца – навучыцца эфектыўна перадавацца ад чалавека да чалавека (што ўжо ёсць) і таксама скакаць паміж чалавекам і жывёламі, каб забяспечыць высокую хуткасць мутацый і ўцякаць такім чынам ад вакцын і нашага імунітэту.

Вось наконт другога пакуль незразумела. Што зноў жа неверагодна – на вывучэнне грыпу пайшло ўсё XX стагоддзе, а цяпер мы будзем мець грунтоўную інфармацыю за 6-8 месяцаў ад пачатку пандэміі.

У любым выпадку, я думаю, цяперашняя хваля сыдзе праз некалькі месяцаў, але паколькі гэта ўжо трэці выпадак каранавіруснай эпідэміі ад пачатку XXI стагоддзя, то САЗ, урады, навукоўцы і вытворцы вакцын зробяць усё магчымае, каб вакцына з'явілася цягам некалькіх гадоў.

### У чым сакрэт хуткага завяршэння пандэміі?

Веды – гэта сіла. Важна, каб урады і навукоўцы каардынаваліся. Калі нехта будзе хаваць дадзеныя пра колькасць хворых, хітраваць, то можа адбыцца другая хваля. Палітыкі заўсёды хітруюць. Таму гэта тэст, лакмусавая паперка для палітыкаў – хто з іх шчыры.




Малюнак пра каранавірус Лявончанкі малодшай.

### Як дбаць пра імунітэт?

Трэба весці здаровы лад жыцця, займацца спортам, праводзіць час на свежым паветры. Чароўных таблетак не існуе, на жаль, інакш усе мы даўно былі б белыя і пухнатыя.

### Што мы робім няправільна?

Урады розных краін столькі гадоў укладалі грошы ў адукацыю, а людзі не памятаюць школьны падручнік па біялогіі і паддаюцца розным ідыёцкім сайтам і паніцы. Пра гэта павінны пісаць сацыёлагі і журналісты.

Нейкая частка людзей верыць рознай лухце і ігнаруе навуку. Людзі адмаўляюцца ад прышчэпак, не вераць у эфектыўнасць вакцынацый ад грыпу. Сумна назіраць, што ў нашы часы, калі ёсць доступ да інфармацыі, нехта сябе яшчэ так паводзіць. 100 гадоў таму людзі марылі пра тое, каб ім зрабілі ўкол і яны вылечыліся. А цяпер людзі забыліся, як гэта страшна, і таму змагацца супраць невуцтва трэба таксама разам.

**Дзмітрый Гурневіч, svaboda.org**

навіны

# “КАБ НЕ ДАВЯЛОСЯ ПІСАЦЬ «АСТРАВЕЦКАЙ МАЛІТВЫ»”. ПРЭЗІДЭНТ ЛІТВЫ СУСТРЭЎСЯ СА СВЯТЛАНАЙ АЛЕКСІЕВІЧ

Сітуацыю вакол Беларускай АЭС, прыярытэты культурнай дыпламатыі ва Усходняй Еўропе ды іншае абмеркавалі 5 сакавіка ў Вільні прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа і беларуская пісьменніца, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі ў літаратуры Святлана Алексіевіч.

“За кожнай трагедыяй стаяць лёсы людзей. Ці ўмеем мы ацаніць досвед мінулага і зрабіць з яго правільныя высновы? У Беларусі ідзе будаўніцтва сучаснага Чарнобыля – АЭС у Астраўцы. Гэта пагроза не толькі для Літвы, а і для ўсёй Еўропы. “Чарнобыльская малітва”, пастаноўкі паводле якой праходзяць у Літве і Беларусі, ёсць трывожным сігналам для дзяржаў, якія недаацэньваюць пагрозы БелАЭС. Мы павінны імкнуцца да таго, каб нікому не давялося пісаць “Астравецкай малітвы””, – цытуе Наўседу сайт кіраўніка



літоўскай дзяржавы.

Гітанас Наўседа падзякаваў пісьменніцы за яе неацэнны ўнёсак у ўвекавечанне балючага, але вельмі значнага досведу жыхароў краін Усходняй Еўропы, назапашанага ў самыя складаныя перыяды гісторыі рэгіёну.

Акрамя таго, абмяркоўвалася ініцыятыва абвясціць 2022 Годам асветніка і выдаўца Францішка Скарыны. Таксама прэзідэнт выказаў падтрымку ініцыятыве Святланы Алексіевіч у адкрыцці выдавецтва для жанчынаўтараў і заахвочванні ўвагі да творчасці жанчын-пісьменніц.

Святлана Алексіевіч у сваіх кнігах уздымае тэмы ваенных канфліктаў, наступстваў Чарнобыля, распаду савецкай імперыі. Паводле яе хронікі “Чарнобыльская малітва” створаны серыял “Чарнобыль”, які здымаўся на тэрыторыі Літвы.

Беларуская аўтарка бярэ ўдзел у міжнароднай канферэнцыі “Незагойныя раны мінуўшчыны: наступствы і спосабы пераадолення”, арганізаванай Міністэрствам замежных спраў Літвы сумесна з Цэнтрам развіцця дэмакратыі імя акадэміка Андрэя Сахарава і Інстытутам псіхалогіі Віленскага ўніверсітэта.

Пасля атрымання Святланай Алексіевіч Нобелеўскай прэміі ў 2015 годзе кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка не віншаваў і не выказаў жадання сустрэцца з лаўрэаткай.

Літва лічыць Беларускую АЭС, якая будуецца за 50 кіламетраў ад Вільні, небяспечнай для сябе. Літоўцы не раз падымалі пытанне пра інцыдэнты ў Астраўцы, бо гэта фактычна каля самай літоўскай мяжы. У Літве нават праходзілі вучэнні на выпадак аварыі на АЭС.

**svaboda.org**

**навіны**

# МІХАЛ АНДРАСЮК – ЛАЎРЭАТ ЛІТПРЭМІІ "ГЛІНЯНЫ ВЯЛЕС"

Аргкамітэт літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес" у Дзень Волі абвясціў імя свайго чарговага лаўрэата. Ім стаў празаік з Падляшша Міхал Андрасюк за раман "Поўня". Выдаўцом кнігі з'яўляецца Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".



Аргкамітэт "Вялеса" растлумачыў, як кніга, на тытуле якой стаіць 2018 год выдання, трапіла ў сёлетні шорт-ліст прэміі. "Раман "Поўня" насамрэч пабачыў свет увесну 2019 года, хоць на вокладцы стаіць 2018-ы. Таму кніга не магла трапіць у шорт-ліст Вялеса за 2019-ы, бо шорт складаецца ў студзені. Улічваючы гэтую акалічнасць, аргкамітэт прыняў рашэнне уключыць кнігу ў шорт за 2019 год".

Міхал Андрасюк нарадзіўся 2 снежня 1959 года ў Гайнаўцы на Падляшшы. Празаік. Піша пабеларуску і па-польску.

Дзяцінства прайшло ў вёсцы Войнаўка Дубіцкай гміны. Скончыў у 1978 годзе беларускі ліцэй у Гайнаўцы, працаваў настаўнікам і каменячосам, затым журналістам "Беларускага Радыё Рацыя".

Дэбютаваў у "Ніве" (1979) вершамі. Аўтар зборніка апавяданняў "Фірма", дзе яскрава засведчыў разлад, народжаны дзевяностымі. У кнізе "Мясцовая гравітацыя" паказаў жыццё польскай правінцыі на польска-беларускім памежжы, яна пра маленькіх людзей са сваімі звычкамі, дзівакаватымі норавамі, смешнымі надзеямі. У 2006 годзе з'яўляецца аповесць "Белы конь", пабудаваная як зборнік апавяданняў, якія разам складаюцца ў гарманічную карціну свету – праз гісторыі продкаў, летапіс сям'і. Кніга атрымала літаратурную прэмію прэзідэнта горада Беласток імя Веслава Казанецкага. Працягам стала кніга мастацкай прозы "Поўня", дзе сямейны летапіс перапісаны на ўзроўні метафарычным.

Лаўрэат 2-й прэміі імя Ежы Гедройца ў 2019 годзе за кнігу "Поўня".

Старшыня аргкамітэта літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес" Алесь Аркуш паведаміў, што існуе дамоўленасць адносна ўручэння сёлета прэміі ў траўні на беразе возера Іпуць Глыбоцкага раёна на базе аб'яднання мясцовых аграсядзіб "Вялесаў шлях". Але з-за пандэміі каранавіруса ўручэнне стасць пераносіцца на больш позні тэрмін.

Найстарэйшая незалежная беларуская літаратурная прэмія "Гліняны Вялес" была заснавана ў 1993 годзе Таварыствам Вольных Літаратараў. Яна даецца за найлепшую беларускамоўную мастацкую кнігу. Лаўрэатамі прэміі станавіліся: Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў, Андрэй Федарэнка, Віктар Казько, Сяргей Дубавец, Валянцін Акудовіч, Барыс Пятровіч і інш.

Стаць лаўрэатам прэміі можна толькі аднойчы.

**"Беларускае Радыё Рацыя"**

# "КАНАДСКІ" ВЫПУСК ЗАПІСАЎ БІНІМ ПРЭЗЕНТАВАЛІ Ў ТАРОНТА

8 сакавіка ў памяшканні Беларускага рэлігійна-грамадскага цэнтру ў Таронта адбылася прэзентацыя свежага выпуску альманаха "Запісы БІНіМ", прысвечанага беларусам у Канадзе.




Даследчыкі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч распавялі пра сваю працу і падзякавалі за цёплы прыём і падтрымку ўсім прысутным беларусам, у прыватнасці Алене Лявончанка, Валянціне Шаўчэнка, Віялеце і Вячаславу Кавалёвым, Алесю Кату і Галіне Сяргеевай, Згуртаванню беларусаў Канады і Беларускаму Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе, а таксама "Яваровым людзям" і "Яваровым дзецям" – за музычную частку імпрэзы.

**Паводле Наталлі Гардзіенка**




### "ОЙ, ЖУРАЎКА": АЛЬБОМ АЎТЭНТЫЧНЫХ СПЕВАЎ АД ІРКУЦКІХ "КРЫВІЧОЎ"

Ансамблю аўтэнтычнай песні "Крывічы" – 10 гадоў (2009–2019).

З гэтай нагоды выйшаў у свет іхны трэці альбом "Ой, Жураўка".

Склад ансамблю "Крывічы" (2015–2019), які браў удзел у запісе гэтага альбома: Воля Галанава (кіраўнік), Алег Рудакоў, Юля Гайсіна, Яна Фадзеева, Зіна Капуцкая, Юля Панава, Каця Тукач, Дзяніс Таранушанка. Гукарэжысёр: Віталь Пятроў.

Песні запісаныя ў часе этнаграфічных вандровак па вёсках беларускіх перасяленцаў у Прыбайкаллі.

**Паводле Іркуцкага клубу "Крывічы"**

навіны

# ЯК БЕЛАРУСЫ ВЯСНУ ГУКАЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Амерыканскія беларусы чарговы раз сустрэліся ў маляўнічым мястэчку Асінінг на беразе Гудзона, побач з Нью-Ёркам, каб разам пагукаць вясну.

Старажытны абрад Гукання Вясны праходзіць ужо не першы раз на ўсходнім узбярэжжы ЗША, дзякуючы нястомнай Валянціне Якімовіч і актывістам беларускай грамады – сям'і Алены і Пятра Рыжых, а таксама Ганне Шарко і Аляксандру Мазгавому, заснавальнікам суполкі ў фэйсбуку "Беларусы ЗША. Разам лягчэй". Для ўдзельнікаў Гукання Вясны сям'я Рыжых падрыхтавала смачныя беларускія стравы: супы, бліны, салаты, кашу, кампот і розныя прысмакі. Як і ўсе вялікія справы, Гуканне Вясны пачыналася з добрага перакусу. Там жа Валянціна Якімовіч дапамагала кожнаму падабраць беларускі народны строй або вышываную кашулю са сваёй прыватнай калекцыі.



Нью-Ёркская зіма ў гэтым годзе была зусім без снегу і не вельмі халоднай (як і ў Беларусі), таму здавалася, што і вясну клікаць няма патрэбы. Але ў дзень Гукання Вясны надвор'е выдалася па-зімоваму халодным з моцным ветрам.

Ад ветру даводзілася ратаваць саламяных птушак і прытрымліваць ляльку Марэну, каб яна не падала. У гэтым годзе з'явіўся новы персанаж – бусел, і ўвогуле святкаванне было падрыхтавана больш грунтоўна, чым у мінулыя гады. Да традыцыйных спеваў і карагодаў арганізатары дадалі больш гульняў і спаборніцтваў. Асаблівa эмацыйнай і драматычнай была гульня па кіданні яйка: партнёры мусілі перакідвацца яйкам. Тыя, хто раняў яго, выбывалі з гульні. А тыя, каму ўдавалася злавіць, адыходзілі на крок назад адзін ад другога і працягвалі гульню. Хлопцы спаборнічалі паміж сабой у спрытнасці па нарыхтоўцы дроў: трэба было збіраць трэскі, раскіданыя загадзя па пляцоўцы. Пераможца вызначалі па колькасці сабраных трэсак. Дзяўчаты спаборнічалі ў хуткасці збору бульбы. Пераможцаў весела павіншавалі і нагадалі, што ў мінулыя часы пераможцы падобных спаборніцтваў звычайна жаніліся або выходзілі замуж у тым самым годзе.

У амерыканскіх рэаліях Гуканне Вясны ў дадатак да захавання беларускай культурнай спадчыны сярод беларускіх эмігрантаў набывае новыя формы і мэты – гэта ўжо свята для ўсіх узростаў: і дзяцей, і старэйшых, а таксама гэта нагода сустрэцца з сябрамі, завесці новыя знаёмствы або проста натхніцца, пакружыўшы карагод з абаяльнай кампаніяй у беларускіх строях.

**Сяргей Трыгубовіч, nn.by**

# ЯЎГЕН ВАПА: ДУХОЎНЫЯ РЭЧЫ ВЫШЭЙШЫЯ ЗА ЎСЕ ПАНДЭМІІ!

Упершыню ў найноўшай гісторыі на Беласточчыне, у сувязі з пандэміяй каранавіруса, не прайшлі масавыя мерапрыемствы з нагоды ўгодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Кажа кіраўнік Беларускага саюзу ў Польшчы Яўген Вапа:

– Мы памятаем, адзначаем самае важнае жыццятворчае палітычнае здарэнне пачатку 20-га стагоддзя – вяртанне Беларусі, як незалежнай дзяржавы, на сусветную мапу Еўропы і свету. Гэта тая падзея, якая адбылася нягледзячы на ўсе абставіны, на ўвесь трагізм вайны і эпідэмій. Людзі, якія ішлі змагацца за Бацькаўшчыну, яны не думалі пра небяспеку эпідэміі. Яны думалі, як абараніць незалежнасць. А духоўная рэч – гэта тое, што вышэйшае за ўсе пандэміі. Мы не вечныя ў гэтым свеце, але захаваць і адрадзіць Бацькаўшчыну – гэта ёсць той запавет, які на нас ляжыць абавязкам.

Пазней быў крывавы тэрор у Савецкім саюзе, была забарона святкавання ў Польшчы, нямецкая акупацыя, зноў савецкі перыяд, калі існавала забарона на тое, каб гаварыць пра БНР, але ўсё адно гэта памяць захоўвалася. Трэба, каб Беларусь была незалежнай. Трэба перадаваць гэтыя ідэі наступным пакаленням – гэта тое, што мы можам рабіць.

Нашы прадзеды перажылі Першую сусветную вайну і бежанства, нашы дзяды Другую сусветную вайну, а таксама бальшавіцкія парадкі. Што запомніцца маладому пакаленню? Напэўна гэтым будзе пандэмія каранавіруса, якая станецца такой псіхалагічнай траўмай. Погляд людзей на сваё быццё ў гэтым свеце і жыцці напэўна зменіцца, бо пераасэнсаванне каштоўнасцей напэўна будзе адбывацца.

Трэба адказваць за людзей, святкуючы 25 сакавіка, берагчы людзей дзеля будучыні. Формы святкавання змяняюцца, дзякуючы віртуальнаму свету, а перадусім электронным СМІ. Сітуацыя змяняецца, мы не можам дакладна сказаць, што будзе ў сувязі з наяўнай сітуацыяй. Дакладна можна сказаць толькі тое, што 102-я ўгодкі абвяшчэння БНР адзначаюцца беларусамі ва ўсім свеце. І гэта ёсць такой упэўненасцю, што мы тое зрабілі і мы існуем.

**– На Беласточчыне таксама ёсць дастаткова працяглая традыцыя святкавання 25 Сакавіка?**

– На Беласточчыне традыцыя адзначэння 25-га сакавіка існуе з паловы 1980-ых гадоў, але сёння яна сутыкнулася з новымі выклікамі. Звычайна мы загадзя мелі падрыхтаваную праграму. Успышка каранавіруса збіла планы, і мы яшчэ да забарон розных аднагалосна вырашылі, што не можам рызыкаваць здароўем людзей. Потым адпалі і іншыя варыянты ў звязку з абвастрэннем сітуацыі і забаронамі, у прыватнасці ўскладанне кветак на магілы беларускіх дзеячоў. Але мяне цешыць, што здаровы сэнс быцця перамагае ўсё іншае, што ёсць. Нам трэба мець сілы , каб было за што і за каго змагацца, каго і што ўшаноўваць. Сёння мы можам нашымі думкамі, ідэямі быць у свабодным эфіры. І гэта ёсць таксама перамогай ідэй Беларускай Народнай Рэспублікі як незалежнага беларускага думання. Можам распавядаць пра БНР для дзясяткаў тысяч людзей, дзякуючы нашаму радыё, дзякуючы іншым медыям, інтэрнэт-прасторы.



*

Яшчэ раней на Падляшшы былі адменены беларускія дэкламатарскія і тэатральныя конкурсы для дзяцей і моладзі.

– Іншага выйсця не было, – кажа намеснік старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень, – як толькі адкласці правядзенне конкурсаў нашых раённых элімінацый у Беластоку і цэнтральных – у Бельску. Калі сітуацыя выправіцца – трэба спадзявацца, што яна выправіцца праз нейкі час, тады будзем завяршаць гэты конкурс. А зараз сітуацыя такая, што адмянілі і правядзенне 18-га сакавіка ў Беластоку, і 25-га – у Бельску.

Дэкламатарскі конкурс для дзяцей і моладзі "Роднае слова" мае адбыцца ўжо 49 раз запар.

**Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"**

навіны

# “НАРЫСЫ, АПАВЯДАННІ І КАЗКІ БЕЛАРУСАЎ ІРКУЦКАЙ ВОБЛАСЦІ”: ІРКУЦКІЯ “КРЫВІЧЫ” ВЫДАЛІ ДОЎГАЧАКАНЫ АЛЬМАНАХ!

Доўгачаканая падзея ў беларускай дыяспары Прыбайкалля! Пабачыў свет альманах “Нарысы, апавяданні і казкі беларусаў Іркуцкай вобласці”.

Рэдактар-складальнік Алег Рудакоў – даследчык, этнограф, вядомы грамадскі дзеяч, пачынальнік сучаснага культурнага руху беларусаў у Прыбайкаллі, сябра Рады ЗБС “Бацькаўшчына”.

Кніга выдадзена на рускай і беларускай мовах.

У Іркуцкай вобласці сёння пражывае каля 50 тыс. чалавек. Але іх прысутнасць практычна нікім не вывучана. Як жа беларусы трапілі ў Прыбайкалле? Што рабілі? Чым займаліся? І ці былі ў іх свае асаблівасці? Ці зрабілі яны свой унёсак у развіццё нашага рэгіёну ў эканамічным, сацыялагічным, дэмаграфічным, культурным аспектах?




Матэрыялы альманаху ў папулярнай манеры расказваюць гісторыю перасялення беларусаў у Іркуцкую вобласць. Большасць з дваццаці двух аўтараў альманаху пішуць пра сябе, пра свае сем’і, свой род. Гэта першая спробай асэнсавання ўнёску беларускага народа ў развіццё Прыбайкалля. Ніхто з аўтараў не мае навуковых рэгалій, але ў той жа час кожны з іх сам з’яўляюцца беларусам Іркуцкай вобласці, сам ёсць тым героем, пра якога трэба пісаць, носьбітам культуры, традыцый і побыту беларусаў Прыбайкалля.

**Алег Рудакоў, “Іркуцкі беларускі клуб”**

# ДЗМІТРЫ ПЛАКС УШАНАВАЎ ПАМЯЦЬ ЗАГІНУЛАГА СЫНА

Дзмітры Плакс, пісьменнік, журналіст і сябра Рады “Бацькаўшчыны”, які жыве ў Швецыі, падзяліўся з выданнем mitti.se планамі па ўшанаванні памяці свайго загінула сына.

16-гадовы Пётр Плакс у жніўні 2019 года трагічна загінуў, зрабіўшыся ахвярай рэзананснага нематываванага забойства. Яго бацькі, Дзмітры і Вольга, якія да гэтага часу не ачомаліся ад гэтага ўдару, вырашылі з дапамогай сяброў Пятра і іх бацькоў ушанаваць памяць сына рознымі спосабамі, абы не звязваць яго імя з забойствам.

Гэтак, у дзень народзінаў Пятра на баскетбольнай пляцоўцы ў школе, у якой той 9 гадоў вучыўся, была адкрытая мемарыяльная дошка, заснаваная на рысунку, зробленым Дзмітрыем Плаксам падчас гульні сына ў баскетбол. Пазней пляцоўка будзе абсталяваная новай лавай і агароджай. Зважаючы на мару Пятра стаць піяністам і яго любоў да Бетховена, Шуберта і Шапэна, у Дзмітра і Вольгі Плаксаў з’явілася ідэя раз на год запрашаць дзевяцікласнікаў гэтай школы на фартэп’янны канцэрт.

Сябры Пятра з дапамогай бацькоў хочуць заснаваць стыпендыю, каб навучэнцы, якія адвучыліся дзевяць гадоў, да пачатку старэйшай школы атрымалі магчымасць выправіцца ў падарожжа, заняцца вывучэннем мовы (Пётр рабіў заўважныя поспехі ў засваенні кітайскай) або пачаць выконваць музыку. “Тое, што зрабіў бы Пётр”, – як гэта растлумачыў Дзмітрый.

**Паводле Johan Thornton, mitti.se**




in memoriam

## У ЗША АД КАРАНАВІРУСУ ПАМЕРЛА БЕЛАРУСКА

Сваякі адкрылі збор ахвяраванняў на пахаванне і падтрымку сям’і Святланы Клімук.

29 сакавіка наша суайчынніца, якая жыла ў Брукліне і працавала настаўніцай у Big Apple Academy, пасля двухтыднёвай барацьбы з каранавірусам загінула ад гэтай хваробы. У яе засталося двое дзяцей.

ЗБС “Бацькаўшчына” выказвае спачуванні сваякам і блізкім спадарыні Святланы Клімук.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**



## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2020 года

**1 красавіка**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, памёр Язэп Лёсік, мовазнавец, пісьменнік.

**2 красавіка**
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі.

**3 красавіка**
- 40 гадоў таму, у 1980-м, памёр Леанід Галяк, юрыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**7 красавіка**
- 160 гадоў таму, у 1860-м, памёр Караль Падчашынскі, архітэктар.

**10 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Гаўрыла Гарэцкі, геолаг, эканаміст. Памёр у 1988-м.
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Сцяпан Баркоўскі, этнограф. Памёр у 1966-м.

**12 красавіка**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.

**14 красавіка**
- 140 гадоў таму, у 1880-м, нарадзіўся Язэп Дыла, пісьменнік. Памёр у 1973-м.
- 135 гадоў таму, у 1885-м, нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі, грамадска-палітычны дзеяч. Расстраляны ў 1938-м.
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Аляксей Карпюк, пісьменнік. Памёр у 1992-м.

**15 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1990-м, нарадзіўся Уладзімір Тамашчык (Васіль), архіепіскап БАПЦ на эміграцыі. Памёр у 1970-м.

**16 красавіка**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, памёр Адам Багдановіч, этнограф.

**20 красавіка**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, памёр Сяргей Палуян, празаік.

**21 красавіка**
- 185 гадоў таму, у 1835-м, нарадзіўся Ялегі Пранціш Вуль (сапр. Элегі Карафа-Корбут), паэт. Памёр у 1894-м.

**22 красавіка**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памёр Барыс Рагуля, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і Канадзе.

**24 красавіка**
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Міхась Зуй, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**26 красавіка**
- Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС
- 185 гадоў таму, у 1835-м, памёр Анёл Доўгірд, філосаф, логік, педагог.

**27 красавіка**
- 75 гадоў таму, у 1945-м, Беларусь прынята ў склад сяброў-заснавальнікаў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый.

**28 красавіка**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, памёр Францішак Багушэвіч, пісьменнік.
-75 гадоў таму, у 1945-м, загінуў Сяргей Крывец, паэт.

**29 красавіка**
- 30 гадоў таму, у 1990-м, памёр Юры Попка, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (214), сакавік 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27